Воронін, В. А. Мядовыя брацтвы ў Вялікім Княстве Літоўскім: паходжанне, эвалюцыя, уплывы / В. А. Воронін // Российские и славянские исследования: науч. сб. Вып. 6 / редкол.: А. П. Сальков, О. А. Яновский (отв. редакторы) [и др.]. — Минск БГУ, 2011. — С. 55 – 65

**В. А. Воронін**

# МЯДОВЫЯ БРАЦТВЫ Ў ВЯЛІКІМ КНЯСТВЕ ЛІТОЎСКІМ: ПАХОДЖАННЕ, ЭВАЛЮЦЫЯ, УПЛЫВЫ

Праваслаўныя царкоўныя брацтвы, як вядома, адыгрывалі вельмі прыкметную ролю ў гісторыі Беларусі канца XVI — пачатку XVIII ст. Іх уплыў на рэлігійнае, культурнае і грамадска-палітычнае жыццё многіх беларускіх, ды і не толькі беларускіх гарадоў Вялікага Княства Літоўскага быў вельмі значны. З імі мусілі лічыцца як мясцовыя органы ўлады, так і цэнтральны ўрад Рэчы Паспалітай. Аднак царкоўна-рэлігійныя брацтвы не былі тут з'явай цалкам новай. Яшчэ раней у гарадах Вялікага Княства існавалі аб'яднанні, якія ў нечым нагадвалі пазнейшыя царкоўна-рэлігійныя брацтвы і насілі тую самую назву. Гаворка ідзе пра так званыя мядовыя брацтвы — з'яву, вельмі слаба даследаваную ў гістарыяграфіі: як айчыннай, так і замежнай. У гэтай працы зроблена спроба пашырыць нашы веды па азначанай праблеме. Да іншых задач артыкула належыць высвятленне паходжання і эвалюцыі мядовых брацтваў, а таксама іх суадносін з царкоўна-рэлігійнымі брацтвамі і цэхамі.

На вельмі старажытныя гістарычныя карані брацтваў у адной са сваіх ранніх работ указваў яшчэ С. М. Салаўёў. Ён паказаў, што брацтвы беларускіх і ўкраінскіх зямель Рэчы Паспалітай вядуць сваё паходжанне ад старажытнарускіх братчын [31, с. 113, 117]. Гэта думка была пацверджана таксама даследаваннямі шэрагу іншых дарэвалюцыйных расійскіх гісторыкаў [6, с. 298, 302, 303—304; 18, с. 45—46; 20, с. 56, 57—58; 36, с. 1—2].

Братчынай (браташчынай) называўся святочны пір у складчыну [33, стб. 174; 29, с. 326]. Крыніцы зафіксавалі існаванне братчын пачынаючы з XII ст. у гарадах паўночнай часткі ўсходнеславянскіх («рускіх») зямель: Ноўгарадзе, Пскове, Старой Русе, Таржку, Полацку [36, с. 1]. Асабліва цікавым для нас з'яўляецца паведамленне пра полацкую братчыну. У 1158 г. палачане арганізавалі змову з мэтай выгнання свайго князя Расціслава Глебавіча. Каб схапіць, яны пачалі яго «звати льстью оу братьщину къ С(вя)теи Б(огороди)ци къ стареи на Петровъ д(е)нь». Аднак князя папярэдзілі, і ён прыехаў на братчыну, апрануўшы пад вопратку панцыр (відаць, кальчугу). Палачане не рашыліся на яго напасці. Тым не менш ужо на наступны дзень было склікана веча, якое і скінула Расціслава [9, стб. 495; 7, с. 158, 170, 171].

Шэраг важных звестак пра братчыну ўтрымлівае Пскоўская судная грамата, помнік XIV—XV стст. Згодна з ёй, «братьщина судить как судьи» [25, с. 342]. Мелася на ўвазе, што злачынствы, якія былі здзейснены на братчыне (за выключэннем цяжкіх), падлягаюць суду самой братчыны [13, с. 118]. Хутчэй за ўсё, менавіта пра братчыну ідзе гаворка ў артыкуле суднай граматы, дзе названы піравы староста і піўцы — удзельнікі брацкага піру [25, с. 335].

Цікавую інфармацыю пра братчыны даюць фальклорна-этнаграфічныя матэрыялы. Напрыклад, у наўгародскай быліне пра Васіля Буслаева чытаем:

> «Послышел Василька Буслаевич
> У мужиков новгородскиех
> Канун варен, пива яшныя, —
> Пошел Василей со дружинею,
> Пришел во братшину в Никол(ь)шину;
> «Не малу мы тебе сып платим:
> За всякова брата по пяти рублев!»
> А за себе Василей дает пятьдесят рублев,

**Воронин Василий Алексеевич** — доцент кафедры истории Беларуси древнего времени и средних веков Белорусского государственного университета, кандидат исторических наук

А и тот-та староста церковной
Принимал их во братшину в Никол(ь)шину,
А и зачали оне тут канун варен пить,
А и те-та пива ячныя» [16, с. 7].

Падобны эпізод апісаны ў быліне пра Садко:

«И будет во Нове-граде
У тово ли Николы Можайскова,
Те мужики новогородские
Соходилися на братшину на Никольшину,
Начинают пить канун, пива яшныя...»

Да іх прыйшоў Садко:

«Бьет челом — поклоняется:
«А и гой еси, мужики новогородские!
Примите меня во братшину Никольшину,
А и я вам сыпь плачу немалую».
А и те мужики новогородские
Принимали ево во братшину Никольшину,
Дал молодец им пятьдесят рублев,
А и зачили пить пива яшныя» [16, с. 177—178].

Сып (сыпь) — гэта доля ўдзельнікаў братчыны. Яна магла ўносіцца як харчовымі прадуктамі, так і, як у дадзеных выпадках, грашыма. Канунамі называлі пачастунак: куццю, піва, мёд і г. д. [34, стб. 1191; 30, с. 58].

У Паўночнай і Паўночна-Усходняй Русі братчыны наладжваліся і на вёсцы, што зафіксавана ўжо актамі XIV ст. — напрыклад устаўной граматай 1391 г. мітрапаліта Кіпрыяна Канстанцінаўскаму манастыру [5, с. 7].

Звычай братчыны добра вядомы і беларускім этнографам. Ён існаваў у нашай вёсцы да канца XIX ст. Братчына святкавалася ўсёй сялянскай абшчынай: у складчыну збіралі воск для грамадскай свечкі і пачастунак для святочнага стала. Яна была прымеркавана да зімовага дня Святога Міколы — 6 снежня [21, с. 88]. Вартай увагі з'яўляецца, між іншым, і тая акалічнасць, што на беларускай вёсцы ў XIX ст. і ў сярэднявечным Вялікім Ноўгарадзе братчыну адзначалі ў адзін дзень, што сведчыць пра яе старажытнасць і даўнія рэлігійна-культурныя сувязі паміж гэтымі рэгіёнамі.

М. М. Ціхаміраў лічыў паведамленне 1158 г. пра полацкую братчыну намёкам на існаванне ў гэтым горадзе купецкага аб'яднання [35, с. 126—127]. Аднак ніякіх сведчанняў на карысць гэтага ў крыніцы няма. Галоўны аргумент даследчыка — аналогія з Ноўгарадам, дзе славутая купецкая карпарацыя Іванскае сто ў гонар прастольнага свята свайго храма, царквы Іаана Прадцечы на Апоках, верагодна («надо предполагать», як піша М. М. Ціхаміраў) ладзіла братчыны [35, с. 118]. Але звычай братчыны сам па сабе яшчэ не даказвае наяўнасць купецкага аб'яднання. Быліны называюць іх удзельнікаў проста «мужыкі наўгародскія» і нічога не гавораць пра іх прыналежнасць да купецтва. Братчыны зафіксаваны не толькі ў буйных гандлёвых гарадах — такіх як Вялікі Ноўгарад, Пскоў і Полацк, дзе, сапраўды, існавалі альбо мусілі існаваць купецкія саюзы. Яны адзначаны і ў намнога больш сціплай па сваім гандлёвым значэнні Старой Русе. Братчыны святкаваліся і ў сельскай мясцовасці. Нарэшце, склад удзельнікаў братчын у Полацку мог адрозніваццa ад наўгародскага.

У цэлым жа братчыну старажытнарускай эпохі можна ахарактарызаваць наступным чынам. Гэты звычай узыходзіў сваімі каранямі яшчэ ў дадзяржаўную, язычніцкую эпоху [13, с. 117—118; 21, с. 88]. Магчыма, яго распаўсюджанне было звязана з рассяленнем славян па Усходне-

Еўрапейскай раўніне. Братчына мела пашырэнне як у горадзе, так і на вёсцы, яна насіла абшчынны характар [21, с. 88]. З распаўсюджаннем хрысціянства братчына набыла рысы хрысціянскага звычаю. Яе наладжванне стала прымяркоўвацца да хрысціянскіх святаў. У гарадах братчыны збіраліся пры цэрквах, а на чале іх, мяркуючы па прыкладзе Ноўгарада, стаялі царкоўныя старасты [19, с. 386—387]. Гарадская братчына насіла арганізаваны характар [13, с. 118]: мела старасту, права ўнутранага суда і, відавочна, пэўны парадак правядзення. Пра шляхі эвалюцыі братчыны ў буйных гарадах Старажытнай Русі мы можам меркаваць, на жаль, у значнай ступені гіпатэтычна. Тым не менш уяўляецца, што рост і развіццё гарадоў мелі вялікі ўплыў на разглядаемы працэс. Гарадская абшчына паступова страчвала сваю маналітнасць. Яна стала размяжоўвацца паводле тэрытарыяльнай (па царкоўных прыходах, вуліцах, пасадах), сацыяльнай, прафесійнай і іншых прыкмет. Зразумела, што групы насельніцтва, вылучаныя паводле названых прыкмет, не існавалі ізалявана. Аднак, прынамсі, у некаторых з іх імкненне да ўнутранай кансалідацыі выяўлялася даволі моцна. Гэты працэс мог знаходзіць сваё адлюстраванне ў самых розных формах. Адной з іх была, відаць, арганізацыя асобных братчын. Згодна з дапушчэннем М. М. Ціхамірава і В. Л. Яніна, уласныя братчыны пры царкве Іаана Прадцечы на Апоках наладжвала наўгародскае купецкае аб'яднанне Іванскае сто. Гэтага нельга выключаць — як нельга выключаць і існаванне братчын, якія былі звязаны з іншымі прафесійнымі, тэрытарыяльнымі, сацыяльнымі аб'яднаннямі. У той жа час братчыны нельга разглядаць як замкнёную арганізацыю. У яе можна было «ўкупіцца», унесшы пэўную долю, аднак доступ у братчыну чужых людзей залежаў ад думкі яе заўсёдных удзельнікаў.

Асобна варта спыніцца на полацкай братчыне. Яна мела шмат супольнага з іншымі братчынамі: наладжвалася пры царкве (Святой Багародзіцы Старой) і ў вялікае царкоўнае свята (дзень святых апосталаў Пятра і Паўла, 29 чэрвеня). Крыніца, Іпацеўскі летапіс, на жаль, нічога не гаворыць нам пра склад яе ўдзельнікаў. Тым не менш трэба пагадзіцца з заўвагай М. М. Ціхамірава аб тым, што значэнне братчыны выходзіла далёка за межы звычайнага піру [35, с. 127]. Братчына абмяркоўвала палітычныя пытанні першаступеннай важнасці, мела права весці перагаворы з князем. Прычым князь Расціслаў без ваганняў, нягледзячы нават на небяспеку, прыняў запрашэнне братчыны. Відаць, у такой практыцы не было нічога незвычайнага і ён не лічыў непрыстойным для сябе прысутнічаць на такіх мерапрыемствах. З вышэйсказанага вынікае, што ў братчыне 29 чэрвеня 1158 г. удзельнічала гарадская вярхушка ці, што таксама не выключана, прадстаўнікі ад розных сацыяльных груп насельніцтва Полацка. У любым выпадку нельга не заўважыць сувязі паміж братчынай і вечам, скліканым на наступны дзень. Па сутнасці, веча было працягам братчыны. Праблема, якую не ўдалося вырашыць на братчыне, была вынесена на разгляд веча і вырашана так, як таго жадала зрабіць братчына. Зразумела, што веча было сабрана па ініцыятыве ўдзельнікаў братчыны і што вечам кіравалі тыя ж асобы, якія вялі рэй на братчыне. Такім чынам, значэнне братчыны ў Полацку XII ст. далёка не зводзілася да сустрэчы сяброў або суседзяў. Яна магла абмяркоўваць і, больш за тое, вырашаць сур'ёзныя пытанні палітычнага (сацыяльнага? юрыдычнага?) кшталту. Такую братчыну трэба разглядаць як своеасаблівы інструмент рэгулявання, калі ў нефармальнай абстаноўцы дыскутаваліся і знаходзілі сваё вырашэнне самыя разнастайныя надзённыя праблемы. Адначасова крыніцы дазваляюць весці гаворку пра абмежаваны склад удзельнікаў братчыны.

На падставе фрагментарных звестак XIII—XV стст., на вялікі жаль, вельмі складана ў дэталях прасачыць шляхі і дынаміку эвалюцыі братчыны. Нягледзячы на гэта, ёсць падставы лічыць, што і ў той перыяд братчыны былі вельмі ўстойлівым і пашыраным сярод гарадскога насельніцтва Вялікага Княства Літоўскага звычаем. Аднак ужо крыніцы XV—XVI стст. даюць значна больш багаты і разнастайны матэрыял па тэме.

Прыкладна на мяжы XV—XVI стст. на замову бібліятэкара бібліятэкі полацкага Сафійскага сабора іераманаха Аляксея быў перапісаны зборнік, які змяшчаў у тым ліку «цуды»

святых Казьмы і Даміяна. Трэці з гэтых «цудаў» мае загаловак: «О братщине, иже в Корсоуне граде». У ім распавядаецца, што ў Корсуні аднаго дня была «обчина гостиннаа». Сабраўшыся ў адным доме, госці пілі там сем дзён і прыйшлі піць на восьмы, аднак гаспадар дома сказаў: «Братьа, нетъ оуже питиа». Тады ўстаў адзін святар, раздаў прысутным шклянкі, а сабе ўзяўшы чашу, узнёс малітву да святых Казьмы і Даміяна. І здарыўся цуд: вада ператварылася ў «мед сладокъ», і піў гэты мёд увесь горад дванаццаць дзён. Калі ж некаторыя пачалі гаварыць брыдкае, мёд зноў ператварыўся ў ваду [15, с. 371—372].

Зразумела, што мы тут маем справу з пераасэнсаваннем «цуда» і перанясеннем яго на ўсходнеславянскую («рускую») глебу. Так у грэчаскім Херсанесе з'явіліся братчына, пітны мёд, «стъкляници» і г. д. Аднак не выклікае сумненняў тое, што аповесць пра гэты «цуд» была добра зразумелай і, відаць, папулярнай сярод жыхароў буйных гандлёвых гарадоў кшталту Полацка. Апекуны купцоў і гандлю святыя Казьма і Даміян глыбока тут шанаваліся, а братчынны звычай быў вельмі пашыраны і любімы. Магчыма, пры пэўных абставінах палачане спрабавалі нават паўтарыць цуд і, хто ведае, можа гэта ў іх хоць раз атрымалася?..

У 1558 г. полацкія мяшчане падалі каралю і вялікаму князю Жыгімонту II Аўгусту вялікую скаргу на свайго ваяводу Станіслава Давойну. Адзін з яе пунктаў зводзіўся да наступнага. Брацкі стараста Яцка скардзіўся гаспадару «о забранье складу ку святомъ рускимъ над звычаи стародавъныи» і аб спагнанні за гэта штрафа ў 20 коп грошаў. Давойна растлумачыў: «ся то заховывало здавъна, же [палачане. — *В. В.*] пры кожъдои церкви у свята врочыстые склады, то естъ канунъны медовые маюць, ведже з дозволеньемъ воеводы альбо врадника его». Але ў мінулым годзе мяшчане «тотъ складъ розсытили» без дазволу ваяводы, за што і былі пакараны [24, л. 134—134 об.].

Паралелі з 1158 г. відавочныя. Братчыны збіраюцца пры храмах у дні царкоўных (праваслаўных) святаў, у складчыну сыцяць «мядовыя кануны». Надзвычай важным падаецца паведамленне пра збор братчын пры ўсіх цэрквах. Гэта паведамленне, безумоўна, трэба расцэньваць як указанне на тое, што ў XVI ст. полацкія гарадскія братчыны ўсё яшчэ захоўвалі абшчынны характар, бо ў буйных гарадах вуліцы ўяўлялі сабой асобныя абшчыны, і кожная з іх будавала для сябе царкву [18, с. 256]. Неабходна звярнуць увагу і на тое, што скаргу ад імя ўсіх ушчэмленых у правах полацкіх мяшчан выказаў адзін брацкі стараста. Цяжка сабе ўявіць, каб той самы чалавек быў старастам ва ўсіх прыходскіх братчынах. Са сказанага вынікае, што, апрача братчын, якія ладзілі вуліцы-абшчыны-прыходы, у Полацку існавала таксама нейкая агульнагарадская інстытуцыя гэтага кшталту. Яна насіла арганізаваны характар — у прыватнасці, мела старасту, які мог прадстаўляць яе інтарэсы на вельмі высокім узроўні. Рэвізія Полацкага ваяводства 1552 г. згадвае «грыдню брацкую», што знаходзілася на Вялікім пасадзе [22, с. 15]. Усё вышэй адзначанае дае падставы гаварыць пра існаванне ў Полацку ў сярэдзіне XVI ст. так званага «мядовага брацтва», якое дзейнічала ў маштабах цэлага горада. Брацтва рэгулярна збіралася, на што ўказвае наяўнасць уласнага дома, і праводзіла нейкую арганізаваную дзейнасць — верагодней за ўсё, царкоўна-дабрачыннай накіраванасці. Мядовае брацтва ў Полацку развілася з агульнагарадской братчыны і моцна яе нагадвала. (Неабходнасць атрымання дазволу на выраб мёду ад ваяводы належыць, бясспрэчна, да позніх наваўвядзенняў. Гэта было звязана з тым, што ў гарадах ВКЛ дзейнічала дзяржаўная манаполія на выраб і гандаль спіртнымі напоямі.) Як і братчына XII ст. пры Багародзіцкай царкве, мядовае брацтва XVI ст., хутчэй за ўсё, мела абмежаваны склад удзельнікаў. Мяркуючы па тым, што брацкі стараста Яцка выступаў ад імя ўсіх гарадскіх братчын, у мядовае брацтва маглі ўваходзіць прадстаўнікі ад розных тэрытарыяльных адзінак і сацыяльных пластоў Полацка. Калі гэта было сапраўды так, дык і братчына XII ст. таксама магла мець рысы такога грамадскага ці тэрытарыяльнага прадстаўніцтва.

Мядовыя брацтвы працягвалі дзейнічаць у Полацку яшчэ ў першай трэці XVII ст., захоўваючы пры гэтым многія старажытныя рысы. Як высвятляецца з цытаванага ніжэй каралеў-

скага прывілея, у азначаны перыяд яны збіраліся тройчы на год: на Божае Нараджэнне, на Вялікдзень і на дзень святых апосталаў Пятра і Паўла. Асабліва варта адзначыць звычай збірацца на пасяджэнні мядовага брацтва ў Полацку ў дзень Пятра і Паўла: у той жа самы дзень братчына ў Полацку збіралася яшчэ ў сярэдзіне XII ст. Звычай, які налічвае пяцісотгадовую традыцыю, не можа не ўражваць. Гэта традыцыя была перарвана толькі ў 1633 г. Новы кароль Уладзіслаў IV Ваза выдаў канфірмацыйны прывілей Полацку, у якім было прадпісана, што ад гэтага часу мядовыя брацтвы будуць збірацца тут не тройчы на год, а па прыкладу Вільні толькі «час ад часу» (od roku do roku). У прывілеі, сярод іншага, было адзначана, што мядовыя брацтвы збіраюцца ў Полацку «ў доме брацкім на гасцінным доме, пры ратушы для гэтага збудаваным» (w domu brackim na goscinnym domie, przy ratuszu na to zbudowanym) [23, л. 172 об. — 173].

Дакументы 1551 і 1561 гг. зафіксавалі братчынны звычай і ў Віцебску [26, с. 48, 49, 56]. Аднак у выпадку з гэтым горадам цяжка меркаваць, ці перарасла братчына ў мядовае брацтва. Цалкам магчыма, што яшчэ не і справа дайшла толькі да арганізацыі братчынных корчмаў, якія згаданы ў дакуменце 1561 г. Цікава, што звычай братчыны, які нагадваў мядовае брацтва, існаваў у Віцебску яшчэ ў канцы XIX ст. Яго — відавочна, у відазмененым да таго часу выглядзе — падрабязна апісаў А. П. Сапуноў [27, прим. 37, с. 51—53].

Братчынны звычай быў добра вядомы і на поўдні Беларусі. З судовага вырака каралевы Боны 1550 г. мы даведваемся, што ў гэты час у Пінску існавала завядзёнка сыціць пры ўладычным двары шэсць канунаў на год «для воску до свеч к церквам Божым». Паводле сцвярджэння мясцовага епіскапа Васіяна, гаворка ішла пра «стародавны а з вечности обычай былы». Кануны сыцілі на Ражство Хрыстова, на Збор (першая нядзеля Вялікага Паста), на Вялікдзень, «на Святога Духа», на Успенне і на Ражство Прачыстай Маці Божай [39, арк. 1].

Але найбольш поўны матэрыял для рэканструкцыі гісторыі мядовых брацтваў у Вялікім Княстве Літоўскім дае Вільня, дзе існавала шматлікае ўсходнеславянскае насельніцтва, якое доўгі час захоўвала сваю рэлігію, культуру, звычаі.

У першай палове XVI ст. у Вільні існавала чатыры праваслаўных мядовых брацтва: бурмістроўска-радзецкае, купецка-гарбарскае, кушнерскае і роскае [38, s. 289—290]. Россю называлася адно з гарадскіх прадмесцяў. Як бачна ўжо з назваў, аб'яднанне ў мядовыя брацтвы адбывалася паводле розных прыкмет: службовай, прафесійнай, тэрытарыяльнай. Гісторыю кушнерскага брацтва можна прасачыць па дакуменце караля і вялікага князя Жыгімонта I Старога 1538 г. — самай ранняй з вядомых нам устаўных грамат мядовым брацтвам. З яе вынікае, што гэта брацтва было заснавана каля 1458 г. віленскімі кушнярамі Клімам і Якубам. Дзейнасць брацтва ўсё яшчэ вельмі нагадвала братчыну і, мяркуючы па ўсім, мела даволі сціплае значэнне ў грамадскім жыцці: братчыкі збіраліся тройчы на год па царкоўных святах, куплялі мёд, гатавалі з яго хмяльны напой, а васковыя свечкі аддавалі ў цэрквы. Пра іншую іх дзейнасць мы нічога не ведаем. Невядома нават, ці было звязана гэта брацтва з нейкім адным храмам. Аднак да 1538 г. кушнерскае брацтва ўжо ператварылася ў выразна афармленую арганізацыю. Яно мела сваё кіраўніцтва — двух гадавых стараст (відаць, у памяць пра заснавальнікаў брацтва), а таксама ключнікаў, пісаны статут, пячатку, фіксаванае сяброўства (існаваў «рэестр брацтва»), валодала судовым імунітэтам (бясспрэчная спадчына братчын), спаганяла штрафы («віны») за парушэнне статутных норм, пабудавала сабе дом [2, с. 5—7]. Адначасова пашыралася і сфера дзейнасці мядовых брацтваў. У другой палове XVI ст. гэта дзейнасць ужо далёка не абмяжоўвалася ахвяраваннем свечак храмам. Як паведамляюць крыніцы, братчыкі, «сходячися, о потребах церковных и шпиталных намовы свои мевають» [3, с. 269]. Брацтвы выдаткоўвалі значныя грошы на рамонт цэркваў, пабудову і ўтрыманне шпіталяў (дамоў прытулку), міласціну жабракам [2, с. 8, 10, 13, 15; 3, с. 269].

Захаваліся звесткі аб тым, што пры віленскай Спаскай царкве з даўніх часоў існаваў шпіталь, які фінансавала адно з віленскіх мядовых брацтваў. Яно мела права сыціць па

20 мядніц мёду напярэдадні шасці вялікіх царкоўных святаў (пар. з Пінскам) і бяспошлінна гандляваць гэтым мёдам у брацкім доме [17, с. 82].

Асаблівую цікавасць уяўляе пытанне аб складзе ўдзельнікаў віленскіх мядовых брацтваў. З прыклада кушнерскага брацтва відаць, што яго заснавальнікамі былі прадстаўнікі адпаведнай прафесіі. Аднак у далейшым склад братчыкаў стаў пашырацца і змяняцца. Напрыклад, статут брацтва прадугледжваў магчымасць сяброўства ў ім духавенства [2, с. 6]. Тое самае, дарэчы, зафіксавана і ў статуце купецкага брацтва [3, с. 270]. Нарэшце справа дайшла да таго, што ў 1608 г. гадавымі старастамі кушнерскага брацтва былі купцы [2, с. 3]. Хутчэй за ўсё, такія ж працэсы змянення сацыяльнага складу ўдзельнікаў зазналі з цягам часу і іншыя брацтвы. У выніку іх назвы сталі ўмоўнымі і з’яўляліся ўжо хутчэй данінай традыцыі, чым адлюстроўвалі рэальны склад удзельнікаў аб’яднанняў.

Прыкладна да апошняй чвэрці XVI ст. канфесійнае пытанне ў мядовых брацтвах не стаяла. Нягледзячы на тое, што пераважную большасць іх удзельнікаў складалі ўсё ж праваслаўныя, статуты прадугледжвалі магчымасць сяброўства ў іх і католікаў, як свецкіх, так і духоўных асоб [2, с. 6; 3, с. 270]. Аднак ужо з 80-х гг. афіцыйныя дакументы сталі падкрэслена называць мядовыя брацтвы «рускімі» — праваслаўнымі [2, с. 3, 9, 12, 14; 3, с. 269]. У гэтым факце выразна адбілася абвастрэнне канфесійных стасункаў і размежаванне вернікаў.

Мядовыя брацтвы былі прэстыжнымі і ўплывовымі арганізацыямі гарадскога насельніцтва. Яны маглі запрашаць на свае пасяджэнні ў тым ліку духавенства і шляхту, якія не з’яўляліся іх сталымі сябрамі. І наадварот, не ўпісаныя ў брацтва асобы, уключаючы тых жа святароў і шляхціцаў, «хотечи меду их братского напити и беседу з братьею мети», маглі ўкупіцца ў брацтва — напрыклад, на адзін дзень [2, с. 6, 7; 3, с. 270, 271].

Мядовыя брацтвы пачалі ўзнікаць у Вільні, мяркуючы па ўсім, у XV ст. Бурмістроўскарадзецкае брацтва не магло скласціся раней за наданне гораду Магдэбургскага права, г. зн. да 1387 г. Нельга сумнявацца ў тым, што мядовыя брацтвы вялі сваё паходжанне ад старажытнарускіх братчын. На карысць гэтага сведчаць шматлікія супольныя рысы. Аднак на генезіс братчын і іх ператварэнне ў брацтвы моцна паўплывала заходнееўрапейская традыцыя. У краінах Заходняй Еўропы рэлігійныя брацтвы (*лац.* confraternitas) вядомыя яшчэ з ранняга сярэднявечча [11, с. 18]. Гэта традыцыя пашыралася на землі Вялікага Княства Літоўскага праз нямецкае і польскае пасрэдніцтва. Статут нямецкага рэлігійнага брацтва Святога Крыжа і Святой Тройцы ў Рызе быў зацверджаны ў 1252 г. [37, p. 307—312]. Улічваючы шчыльныя сувязі Рыгі з Полацкам, гэта нямецкае брацтва, напэўна, было добра вядома палачанам. Нямецкая абшчына ў Вільні існавала яшчэ ў часы вялікага князя літоўскага Гедыміна (1316—1341). На Вільню, асабліва з канца XIV ст., моцна ўплывалі польскія гарады, у Кракаве ж першае рэлігійнае брацтва ўзнікла ў 40-я гг. XIV ст. [40, s. 46].

Звычай (а менавіта так, нягледзячы на пэўную арганізаванасць, трэба характарызаваць братчыны) з цягам часу перарос у паўнавартасную арганізацыю. Такія рысы, як прымеркаваны да пэўных царкоўных святаў супольны пір, судовы імунітэт, кіраўнічыя пасады і шэраг іншых, былі ўспрыняты мядовымі брацтвамі менавіта ад братчын. Разам з тым фармалізаванае сяброўства, пісаныя статуты, апека над шпіталямі належаць да заходніх уплываў. Пераважную частку братчыкаў складалі праваслаўныя, але да канца XVI ст. канфесійная прыналежнасць не мела для сяброўства прынцыповага значэння. Мядовыя брацтвы мелі царкоўна-дабрачынны характар, аднак іх дзейнасць у царкоўна-дабрачыннай сферы зводзілася хутчэй да дапаможных, тэхнічных функцый: рамонту храмаў, іх забеспячэння неабходным начыннем.

Вельмі складаным і заблытаным з’яўляецца пытанне аб суадносінах мядовых брацтваў і рамесніцкіх цэхаў. На пэўнае падабенства гэтых аб’яднанняў ужо даўно звярталася ўвага ў літаратуры. Блізкасць назіраецца ўжо ў тэрміналогіі: як і мядовыя аб’яднанні, цэхі ў некаторых гарадах называліся брацтвамі, а іх сябры — братамі. На чале адных і другіх стаялі старасты. І цэхі, і брацтвы мелі «скрынку брацкую» для захоўвання грашовых сродкаў, будавалі

«дом брацкі» для сваіх патрэб. У выпадку смерці сябра цэха ці братчыка яго паплечнікі мусілі выдаткаваць грошы на сукно, аксаміт і свечкі для пахавальнай цырымоніі, а таксама ўдзельнічаць у жалобнай працэсіі, існавалі і іншыя супольныя рысы. Аднак у тлумачэнні такога блізкага падабенства даследчыкі кардынальна разышліся. І. Я. Спрогіс атаясамліваў віленскія кушнерскае і роскае мядовыя брацтвы з рамесніцкімі цэхамі [32, с. V—XIII]. Гэтай пазіцыі сімпатызаваў, хоць і не цалкам яе падзяляючы, Ф. В. Кліменка [12, с. 14]. Аднак гэта дапушчэнне выклікала вострую і, трэба прызнаць, абгрунтаваную крытыку. С. В. Шалковіч [32, с. VI—VII], І. П. Зіліцінкевіч [8, с. 5—27], а яшчэ раней Н. А. Скабалановіч [28, с. 304—305] паказалі, што мядовыя брацтвы і цэхі арозніваюцца паміж сабой як па складзе ўдзельнікаў, так і па сферы дзейнасці. Тым не менш супадзенне такой значнай колькасці важнейшых тэрмінаў нельга ігнараваць. Ф. В. Кліменка спрабаваў растлумачыць яго тым, што мядовыя брацтвы ўзніклі раней за цэхі і перадалі апошнім сваю тэрміналогію [12, с. 16]. Трэба прызнаць трапнасць гэтага назірання, але адначасова варта заўважыць, што застаюцца невысветленымі характар узаемадзеяння гэтых аб'яднанняў і механізм перадачы тэрмінаў.

Вышэй было выказана меркаванне, згодна з якім рост старажытнарускага горада выклікаў драбленне гарадской абшчыны паводле самых розных прыкмет. Для таго каб замацаваць сваю еднасць і яшчэ больш кансалідавацца, прафесійныя, тэрытарыяльныя і іншыя аб'яднанні гарадскога насельніцтва сталі наладжваць уласныя, асобныя ад іншых груп жыхароў братчыны. Гэта добра пацвярджаецца прыкладам Вялікага Ноўгарада, дзе купецкае аб'яднанне Іванскае сто арганізоўвала свае братчыны ўжо ў XIII ст.

У гарадах Вялікага Княства Літоўскага братчыны да XV—XVI стст. трансфармаваліся ў мядовыя брацтвы. З віленскай сітуацыі вядома, што брацтвы ўзнікалі на базе прафесійных (кушнерскае і купецка-гарбарскае), службовага (бурмістроўска-радзецкае) і тэрытарыяльнага (роскае) аб'яднанняў. Відаць, спачатку наладжваліся супольныя братчыны, якія з цягам часу аформіліся ў мядовыя брацтвы. У кушняроў гэта адбылося прыблізна ў 1458 г. Такім чынам, у сярэдзіне XV ст. рамеснікі-кушняры былі ўжо дастаткова скансалідаванай сілай, каб «дарасці» да такога аб'яднання. Вельмі верагодным падаецца ўплыў заходніх рэлігійных гільдый (брацтваў) на станаўленне віленскага кушнерскага мядовага брацтва — як, дарэчы, і на фарміраванне трох астатніх. Хутчэй за ўсё, на той час кушняры ўжо мелі ці нейкае сваё прафесійнае аб'яднанне, ці, прынамсі, яго зародкавую форму. Крыніцы не дазваляюць упэўнена сцвярджаць, ці гэта быў цэх. Шэраг аргументаў сведчыць на карысць таго, што кушняры тады яшчэ не мелі цэхавай арганізацыі. Па-першае, відаць, самы ранні з вядомых нам віленскіх цэхаў — цэх залатароў — быў зацверджаны вялікім князем Аляксандрам значна пазней, толькі ў 1495 г. [2, с. 61]. Па-другое, кушняры не мелі ўласнага цэхавага статута аж да 1669 г.

Віленскае кушнерскае мядовае брацтва ўзнікла каля 1458 г., калі кушняры вырашылі ў такім выглядзе аформіць сваё прафесійнае аб'яднанне. Менавіта гэтым і трэба тлумачыць супадзенне тэрміналогіі мядовых брацтваў і цэхаў: прафесійныя аб'яднанні проста запазычылі яе ў брацтваў. Прапанаваная схема пацвярджаецца не толькі канкрэтнымі фактамі, але і гістарычнымі аналогіямі. Сітуацыя, калі разнастайным свецкім арганізацыям, саюзам, аб'яднанням іх удзельнікі надавалі рысы рэлігійных ці рэлігійна-дабрачынных супольнасцей, вельмі ўласцівая еўрапейскаму сярэднявеччу.

З цягам часу, аднак, мядовыя брацтвы і цэхі ўсё больш і больш размяжоўваліся — як па асабістым складзе ўдзельнікаў, так і па сваіх функцыях. Тым не менш у некаторых выпадках гэтыя функцыі суіснавалі і спалучаліся. Відавочна, менавіта так было ў віленскіх кушняроў. У іх яшчэ доўгі час статут мядовага брацтва адначасова выконваў ролю цэхавага статута. Пра гэта недвухсэнсоўна сведчыць згадка ў цэхавым статуце, нададзеным віленскім кушнярам у 1669 г. [2, с. 80]. На карысць гэтага гаворыць і сам факт такога позняга атрымання кушнярамі ўласнага цэхавага статута — нашмат пазней за большасць іншых віленскіх рамеснікаў. Вельмі малаверагодна, што такая шырока распаўсюджаная рамесніцкая спецыяльнасць, як кушня-

ры, у такім буйным горадзе, як Вільня, не мела свайго прафесійнага аб'яднання аж да апошняй трэці сямнаццатага стагоддзя.

Крыху іншы прыклад дае Магілёў з яго запозненым, у параўнанні з Вільняй, але затое вельмі інтэнсіўным фарміраваннем цэхавай сістэмы [14, с. 31—32]. Статут цэха магілёўскіх кушняроў быў зацверджаны ў 1581 г. [10, с. 325—328], а статут іх мядовага брацтва — у 1589 г. [4, с. 222—224]. Пры гэтым статут мядовага брацтва амаль што даслоўна паўтарае адпаведныя віленскія статуты — напрыклад, статут купецкага мядовага брацтва 1582 г. [3, с. 270—271]. Змест абодвух кушнерскіх статутаў яшчэ раз выдатна ілюструе, што цэх і мядовае брацтва з'яўляюцца арганізацыямі рознай накіраванасці, хоць на першапачатковым этапе існавання нават асабовы склад іх удзельнікаў мог супадаць.

Зразумела, што далёка не ўсе і не заўсёды рамесніцкія карпарацыі ўзнікалі і развіваліся ў такой шчыльнай сувязі з мядовымі брацтвамі. На жаль, крыніцы дазваляюць прасачыць гэты працэс усяго на некалькіх прыкладах, прычым толькі ў адным горадзе — Вільні. Аднак гэта вельмі раннія выпадкі, з чым і звязана іх выключная каштоўнасць. Калі нават такім шляхам узнікла ўсяго некалькі цэхаў у Вільні, гэтыя цэхі, безумоўна, паўплывалі на многія іншыя карпарацыі рамеснікаў, што і знайшло сваё адлюстраванне ў тэрміналогіі. Гэта асабліва ўласціва для цэхавай тэрміналогіі беларускіх гарадоў. Зусім не выключана, што такім жа самым шляхам адбывалася станаўленне прафесійных аб'яднанняў рамеснікаў і ў іншых буйных гарадах Вялікага Княства Літоўскага.

Узаемадзеянне цэхаў з мядовымі брацтвамі не было такім аднабаковым і прамалінейным. Цалкам магчыма, што цэхі ўспрымалі нейкія рысы позніх мядовых брацтваў. І, у сваю чаргу, зусім не выключаны запазычанні мядовых брацтваў у цэхаў — ужо на самастойным этапе развіцця апошніх.

Карэнныя змяненні, якія адбываліся ў грамадска-палітычным і рэлігійным жыцці Рэчы Паспалітай у апошняй чвэрці XVI ст., моцна паўплывалі і на мядовыя брацтвы. Уціск праваслаўных з боку ўрадавых колаў і ўзмацненне пазіцый каталіцкага касцёла выклікалі адпаведную рэакцыю. Праваслаўныя мяшчане буйных гарадоў Рэчы Паспалітай сталі аб'ядноўвацца ў брацтвы, мэты і кола дзейнасці якіх вельмі моцна адрозніваліся ад мэтаў і сферы дзейнасці мядовых брацтваў. Калі мядовыя брацтвы былі царкоўна-дабрачыннымі саюзамі, дык праваслаўныя брацтвы, якія склаліся ў неспрыяльных умовах канца XVI — пачатку XVII ст., з'яўляліся ўжо рэлігійна-дабрачыннымі і культурна-асветніцкімі аб'яднаннямі, якія ўжо мелі прыкметны ўплыў і на грамадска-палітычнае жыццё гарадоў. Прынцыповае адрозненне паміж імі выдатна ўсведамлялі ўлады. Так, у прывілеі караля Жыгімонта III Вазы 1611 г. было адзначана, што калі раней мядовыя брацтвы былі нададзены віленскім мяшчанам «ку концови тому, абы свечи до церкви Божиих давали а церкви и шпитали опатривали», дык цяпер братчыкі, «по большей части не заховуючи се в том водле повинности своее, пожитки з тых братств на местца незвыклые оборочают(ь), а церквей и служачих в них духовных не опатруют(ь)» [1, с. 170]. Тым не менш непасрэднай пераемнасці, ператварэння мядовых брацтваў у рэлігійна-культурныя праваслаўныя брацтвы, як правіла, не назіралася. Напрыклад, чатыры віленскія мядовыя брацтвы, нягледзячы на адзначаныя спробы, так і не здолелі карэнным чынам змяніць сваю ранейшую сферу дзейнасці, працягваючы функцыянаваць у адпаведнасці са старымі статутамі і на працягу ўсяго XVII ст. Гэта адбылося дзякуючы прамому ўмяшанню каралеўскай улады, якая забараніла ім выдаткоўваць грошы на нейкія новыя, нязвыклыя патрэбы. Больш таго, кароль паставіў віленскія мядовыя брацтвы пад кантроль духавенства і «рады рускай» гарадскога магістрата [1, с. 170—172]. Тым не менш немагчыма адмаўляць уплыў мядовых брацтваў на станаўленне брацтваў царкоўна-рэлігійных, якія дзейнічалі пры цэрквах і манастырах. Узаемна перакрываліся сферы іх дзейнасці: рамонт і забеспячэнне цэркваў, апекаванне шпіталямі, таксама шмат супольных рысаў мела іх арганізацыйнае ўладкаванне. Сярод адрозненняў варта адзначыць тое, што праваслаўныя

брацтвы ўжо не наладжвалі піры ў складчыну [31, с. 113; 28, с. 317]. Мядовыя ж брацтвы ўвесь час захоўвалі гэтую сваю старажытную традыцыю — традыцыю, на якой і грунтавалася ўся іх дзейнасць.

**ЛІТАРАТУРА**


1. Акты, издаваемые Виленской Археографической комиссией (далее — АВАК): в 39 т. / Вильна : Тип. Губерн. Правл., 1865—1915. Т. 9: Акты Виленского земского суда / подг. к изд. С. В. Шолкович. 1878. XXII, 592. 58 с.
2. АВАК. Т. 10: Акты Виленского магистрата и магдебургии / подг. к изд. И. Я. Спрогис. 1879. XXXVIII, 593. 48 с.
3. Акты, относящиеся к истории Западной России: в 5 т. / ред.: И. И. Григорович. Санкт-Петербург: Тип. Э. Праца, 1846—1853. Т. 3: 1544—1587 гг./ И. И. Григорович. 1848. VIII, 317. 17 с.
4. Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России: в 15 т. / ред.: Н. И. Костомаров, Г. Ф. Карпов. Санкт-Петербург: Тип. Э. Праца, 1863—1892. Т. 1: 1361—1598 гг. / Н. И. Костомаров. 1863. 301 с.
5. Акты, собранные в библиотеках и архивах Российской империи Археографической экспедицией: в 4 т. / ред.: П. М. Строев. Санкт-Петербург: Тип. II Отд-ния собственной Е. И. В. канцелярии, 1836. Т. 1: 1294—1588 гг. / П. М. Строев. 1836. XV, 491. 25 с.
6. *Беляев, И. Д.* Полоцкая православная церковь до Брестской унии / И. Д. Беляев // Православное обозрение. 1870. Первое полугодие. С. 288—306.
7. *Бережков, Н. Г.* Хронология русского летописания / Н. Г. Бережков. М. : Изд-во АН СССР, 1963. 376 с.
8. *Зилитинкевич, И. П.* Виленские филантропические или медовые братства / И. П. Зилитинкевич. Вильна: Вилен. губ. тип., 1887. 84 с.
9. Ипатьевская летопись / подг. к изд. А. А. Шахматов // Полное собрание русских летописей. Т. 2. Санкт-Петербург: Тип. М. А. Александрова, 1908. XVI с., 938 стб. 87 с.
10. Историко-юридические материалы, извлеченные из актовых книг губерний Витебской и Могилевской: в 32 вып. / ред.: А. М. Сазонов. Витебск: Тип. Губерн. Правл., 1871—1906. Вып. 7: Приходно-расходные книги города Могилева; Акты, извлеченные из книг могилевского магистрата / сост. А. М. Сазонов. 1876. 511. V с.
11. *Ісаевич, Я. Д.* Братства та їх роль в розвитку української культури XVI—XVIII стст. / Я. Д. Ісаевич. Київ: Наукова думка, 1966. 251 с.
12. *Клименко, Ф. В.* Западнорусские цехи XVI—XVIII вв. / Ф. В. Клименко. Киев : Тип. Имп. ун-та св. Владимира, 1914. IV. 166 с.
13. *Мартысевич, И. Д.* Псковская судная грамота: Историко-юридическое исследование / И. Д. Мартысевич. М. : Изд-во Моск. ун-та, 1951. 208 с.
14. *Мелешко, В. И.* Могилев в XVI — середине XVII в. / В. И. Мелешко. Минск : Наука и техника, 1988. 264 с.
15. Наукова бібліотека Львівського національного університету ім. Івана Франка. Відділ рукописних, стародрукованих, рідкісних книг ім. Ф. П. Максименка. № 203.III — Пролог, сентябрьская половина.
16. Новгородские былины / подг. к изд. Ю. И. Смирнов и В. Г. Смолицкий. М. : Наука, 1978. 456 с.
17. Памятники русской старины в западных губерниях империи: в 8 вып. / Изд. П. Н. Батюшков. СПб. : Типолитография А. Траншеля, 1868—1885. Вып. 5: Вильна. 1872. 117 с.
18. *Папков, А. А.* Древнерусский приход / А. А. Папков // Богословский вестник. 1897. Февраль. Отд. 2. С. 251—284.
19. *Папков, А. А.* Древнерусский приход / А. А. Папков // Богословский вестник. 1897. Март. Отд. 2. С. 373—395.
20. *Папков, А. А.* Положение православия и русской народности в Литве до XVII века / А. А. Папков. Сергиев Посад: Свято-Троиц. Сергиева Лавра. Собственная тип., 1899. LXIV. 2 с.
21. *Піліпенка, М. Ф.* Братчына / М. Ф. Піліпенка // Этнаграфія Беларусі: Энцыклапедыя / гал. рэд. І. П. Шамякін. Мінск, 1989. С. 88.
22. Полоцкая ревизия 1552 года / подг. к изд. И. И. Лаппо. М. : Изд. императорского о-ва истории и древностей российских при Моск. ун-те, 1905. XXI. 238 с.

23. Российский государственный архив древних актов (далее — РГАДА). Ф. 389 (Литовская метрика). Оп. 1. Ед. хр. 106 — Привилегии, пожалования и декреты Владислава IV, 1633.

24. РГАДА. Ф. 389 (Литовская Метрика). Оп. 1. Ед. хр. 249 — Книга королевских решений, 1554—1558 гг.

25. Российское законодательство X—XX веков: [Тексты и коммент.]: в 9 т. / под общ. ред. О. И. Чистякова. М. : Юрид. лит., 1984. Т. 1: Законодательство Древней Руси / отв. ред. В. Л. Янин. 430 с.

26. *Сапунов, А. П.* Витебская старина (далее — Сапунов. ВС): в 5 т. / сост. и изд. А. П. Сапунов. Витебск: Тип. Губерн. Правл., 1883—1888. Т. 1: Известия русских и литовских летописей о Витебске. 1883. XXIV. 669 с.

27. *Сапунов.* ВС. Т. 5: Материалы для истории Полоцкой епархии. 1888. 6, CLXVIII. 650 с.

28. *Скабаланович, Н. А.* Западноевропейские гильдии и западнорусские братства / Н. А. Скабаланович // Христианское чтение. 1875. Сентябрь — октябрь. С. 271—327.

29. Словарь русского языка XI—XVII вв. (далее — СРЯ): вып. 1—28 / редкол.: С. Г. Бархударов (гл. ред.) [и др.]. М. : Наука, 1975—2008. Вып. 1: А — Б / Н. Б. Бахилина [и др.]; под ред. Г. А. Богатовой. 1975. 371 с.

30. СРЯ. Вып. 7: К — Крагуярь / В. Я. Дерягин [и др.]; под ред. Г. А. Богатовой. 1980. 403 с.

31. *Соловьев, С. М.* Братчины / С. М. Соловьев // Русская беседа. 1856. № 4. Смесь. С. 108—117.

32. *Спрогис, И. Я.* Предисловие / И. Я. Спрогис, С. В. Шолкович // АВАК. Т. 10. С. III—XXXVIII.

33. *Срезневский, И. И.* Словарь древнерусского языка (далее — Срезневский. СДЯ): в 3 т. / И. И. Срезневский. Репринт. изд. М. : Книга, 1989. Т. 1. Ч. 1: А — Д. IX с., стб. 1—806.

34. Срезневский. СДЯ. Т. 1. Ч. 2: Е — К. Стб. 807—1420.

35. *Тихомиров, М. Н.* Древнерусские города / М. Н. Тихомиров. Изд. 2-е, доп. и перераб. М. : Госполитиздат, 1956. 477 с.

36. *Харлампович, К. В.* Западнорусские церковные братства и их просветительная деятельность в конце XVI и в начале XVII в. / К. В. Харлампович. [Б. м.: Б. и., 1899]. 19 с.

37. Liv-, Esth- und Curländisches Urkundenbuch nebst Regesten. Bd. 1—15 / Herausgegeben F. G. von Bunge. Reval — Riga — Moskau : Kluge und Ströhm, 1853—1914. Bd. 1: 1093—1300 / F. G. von Bunge. 1853. XII, 810, 190 p.

38. *Łuksza, W.* W sprawie prawosławnych bractw miodowych w Wilnie / W. Łuksza // Ateneum Wileńskie. 1938. R. XIII. Zesz. 2. S. 288—290.

39. Vilniaus Universiteto Biblioteka. Rankrašči skyrius (Бібліятэка Віленскага ўніверсітэта. Аддзел рукапісаў). F5-A83-12260. 2 арк. — Судовы ліст каралевы Боны па скарзе пінскіх мытнікаў Ізраіля і Анахіма Пейзаховічаў і Ізошка Машэевіча на тураўскага і пінскага епіскапа Васіяна, 29 жніўня 1550 г.

40. *Zaremska, H.* Bractwa w średniowiecznym Krakowie / H. Zaremska. Wrocław ; Warszawa ; Kraków ; Gdańsk : Zakład Narodowy im. Ossolińskich : Wydawnictwo Polskiej Akademii Nauk, 1977. 193 s.

## РЕЗЮМЕ

Статья посвящена истории медовых братств — объединений православных горожан, существовавших в ВКЛ в XV—XVII вв. Медовыя братства генетически восходят к древнерусским пирам-братчинам, которые имели особенно широкое распространение в городах северо-запада Руси, в том числе в Полоцке. Первые известные нам медовые братства возникли в середине XV в. в Вильнюсе, несколько позже они появились и в других крупных городах ВКЛ. Медовые братства оказали заметное влияние на становление ремесленных цехов и церковно-религиозных братств православного населения.

## SUMMARY

This article is devoted to the history of honey fraternities, the communities of Orthodox townspeople, which existed in the towns of Grand Duchy of Lithuania in XV—XVII centuries. Honey fraternities originated from the old-Russian feasts (bratchina), which were the wide-spread custom in the towns of North-Westward Rus', including Polotsk. The first honey fraternities arose in a middle of XV-th century in Vilnius, but former they appeared in another towns of Grand Duchy of Lithuania too. Hohey fraternities influenced noticeably upon the formation of handicraft shops and religious fraternities of the Orthodox townspeople in this state.

Статья поступила в редакцию 29 августа 2010 г.